*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 25(133) ◈ 23 чэрвеня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***З РАСІІ Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫ БАНК БЕЛАРУСІ ПАСТУПІЛА ЎРАДАВАЯ ТЭЛЕГРАМА,** у якой прапануецца: або вы застаяцеся ў рублёвай зоне і губляеце сваю незалежнасць, або жывіце як хочаце. Адказ трэба даць да 1 ліпеня. Цікава, які́м ён будзе?*

■■■

**6 ЛІПЕНЯ Ў НАВАГРАДКУ ПРОЙДЗЕ СВЯТА «ПАД БЛЯСКАМ КАРОНЫ».** Горад будзе адзначаць 740-я ўгодкі каранацыі князя наваградскага Міндоўга.

■■■

***16 ЧЭРВЕНЯ Ў ЧАС УРУЧЭННЯ ВЯРЫЦЕЛЬНАЙ ГРАМАТЫ** Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Рэспублікі Куба Ганнай Марыяй Равірай Інхідуа Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславу Шушкевічу размова ішла без перакладчыкаў — на польскай мове. Ганна Марыя Равіра Інхідуа абяцала спікеру вывучыць беларускую мову і гаварыць на ёй так добра, як ён размаўляе па-польску.*

■■■

**«УРАД У ШАПКУ НЕ СПІЦЬ!»** — заявіў на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Сяргей Лінг. Але, як ні дзіўна, шмат што ўжо праспалі.

■■■

***У САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ ПРАЙШЛА ПЕРШАЯ НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ І БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА»,** прысвечаная памяці акадэміка Яўхіма Карскага. На канферэнцыі выступілі В. Грыцкевіч, В. Скалабан, В. Булкін, В. Бабук, М. Ткачэнка, А. Лысенка, Л. Бойка і іншыя. Пачэснай госцяй на канферэнцыі была ўнучка Я. Карскага філолаг Таццяна Сяргееўна Карская. Вёў канферэнцыю сябра аргкамітэта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў пецярбургскі даследчык М. Нікалаеў.*

■■■

***РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ НАВЕДАЎ СПЕЦЫЯЛЬНЫ САВЕТНІК ДЗЯРЖСАКРАТАРА ЗША ПА СПРАВАХ СНД СТРОЎБ ТЭЛБАТ,** які мае ранг пасла па асобых даручэннях. Адбыліся сустрэчы са Старшынёй Вярхоўнага Савета С. Шушкевічам, прэм'ер-міністрам В. Кебічам, міністрам замежных спраў П. Краўчанкам і прадстаўнікамі палітычных партый і груповак Беларусі. Гутаркі праходзілі на рускай мове, і калі лідэр БСДГ А. Трусаў пачаў выступаць па-беларуску, не знайшлося перакладчыка.*

■■■

**НАРОДНЫ ПІСЬМЕННІК БЕЛАРУСІ ВАСІЛЬ БЫКАЎ ПАКІНУЎ ПАСАДУ ГАНАРОВАГА ПРЭЗІДЭНТА ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА».** В. Быкаў мяркуе, што паколькі «Бацькаўшчына» на З'ездзе беларусаў свету не будзе гаспадаром, то гэты з'езд будзе выкарыстаны некаторымі палітычнымі сіламі ў антынацыянальных інтарэсах.

## *СЫНА ВІНАВАТЫМ РОБІЦЬ БАЦЬКА*

Стар. 2

## Мовы, як народы: змагаюцца, квітнеюць, паміраюць...

Стар. 6

# ПАД КРЫЖАМ, З «ПАГОНЯЙ»...

### *29 і 30 траўня ў Менску адбыўся III з'езд БНФ*

НАЙПЕРШ НЕКАЛЬКІ ЛІЧБАЎ. Зала Беларускага Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы мае 523 месцы. На з'езд сабралася 566 дэлегатаў, звыш ста гасцей з усёй Беларусі і суседніх краін, паслы і дыпламаты. Вельмі зацікавіліся з'ездам газеты, агенцтвы, радыё і тэлекампаніі — усяго 51: іх карэспандэнты былі акрэдытаваны.

Цікавыя звесткі пра дэлегатаў: 416 (73%) маюць вышэйшую адукацыю, 70 — сярэднюю спецыяльную. Пераважала інтэлігенцыя — 402, рабочых — 74 ды беспрацоўных — 34 дэлегаты (звальняюць сяброў БНФ!). Прадстаўнікі беларускіх партыяў: 32 ад Грамады, 2 ад Сялянскай, 18 ад Нацыянальна-дэмакратычнай, 10 ад Беларускага Жаночага Хрысціянска-дэмакратычнага руху. Дэлегатамі III з'езда БНФ былі дэпутаты: Вярхоўнага Савета — 21, гарадскіх — 35, раённых — 12, пасялковага — 1.

АДКРЫЦЦЁ. З'езд праводзіўся ўрачыста. На сцэне — эмблемы: вялікая, для значных урачыстасцяў, створана паводле вядомай гістарычнай выявы герба «Пагоня» XVI стагоддзя, ды малая — шасціканцовы крыж — для значкоў, шэўронаў... Паабапал сцэны — нацыянальныя сцягі з малой эмблемай БНФ (пазней эмблемы былі зацверджаны з'ездам).

...Зайграла сурма Уладзіміра Пузыні; з першымі гукамі гімна «Магутны Божа!» усе ўсталі...

Зянон Пазьняк павіншаваў прысутных з адкрыццём III з'езда БНФ, згадаў, што ён праводзіцца ў тым жа будынку, дзе 75 гадоў таму сабраўся Першы Усебеларускі Кангрэс. Ён жа прапанаваў прысутным разгадаць таямніцу, як 15 снежня 1917 года тут размясцілі больш за 1700 дэлегатаў Кангрэса, пасля запрасіў да мікрафона Васіля Быкава.

ПРЫВІТАЛЬНЫЯ СЛОВЫ. Васіль Уладзіміравіч згадаў пра папярэднія два з'езды Беларускага Народнага Фронта, які абудзіў нацыю і даў ёй надзею. А тое, што БНФ яшчэ не дамогся свае мэты, — мяркуе наш славуты пісьменнік,— тлумачыцца грандыёзнасцю задачы, якая па сіле не аднаму пакаленню. Асабліва высока цэніць Васіль Быкаў старшыню БНФ: «Нацыі пашчасціла на яе лідэра, якім з'яўляецца пасланы нам Богам Зянон Пазьняк».

У гэты дзень і назаўтра дэлегатаў III з'езда БНФ віталі і віншавалі айцец Ян Матусевіч; старшыня Саюза палякаў Беларусі Тадэвуш Гавін, які заклікаў «разам будаваць Беларусь»; Вітаўтас Ландсбергіс; Аляксей Анішчык з Вільні; Вячаслаў Чарнавіл; Барбара Пустачэнка з таго ж Саюза палякаў Беларусі.,. Спадарыня Барбара гаварыла вельмі эмацыянальна, яе выступ часта перарывалі апладысменты. Ці было за што? Мяркуйце самі: «Не дазволіць чалавеку гаварыць на роднай мове — гэта тое самае, што забіць гэтага чалавека. А тут

*Заканчэнне на с. 3.*




Дэлегаты III з'езда БНФ.

Фота У. КАРМІЛКІНА.

***Зараз 4 мільёны беларусаў жывуць за межамі Беларусі: у далёкім замежжы — 1,8 мільёна, у Расіі — 1,2 мільёна, Латвіі — 160 тысяч, Літве — 60 тысяч, Эстоніі — 29 тысяч, Сярэдняй Азіі — 300 тысяч, Малдове — 20 тысяч. Праўда, гэтыя звесткі, хутчэй за ўсё, заніжаныя, бо няўжо ў Літве жыве толькі 60 тысяч беларусаў?***

*Рэха*

# Сына вінаватым робіць бацька

Хачу трохі дадаць да таго, што «Наша слова» паведамляла пра шаноўнага народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Аляксандра Лукашэнку. Спадар Лукашэнка рытарычна пытаў праз мікрафон на ўсю Беларусь: у чым вінаваты ягоны сын, што не ведае беларускай мовы? Адказ навідавоку. Вінаваты ў тым, што ў яго такі бацька. Які сваю віну імкнецца перакласці на сына. А сам бацька — перад продкамі, перад народам, калі выступае супраць дзяржаўнасці беларускай мовы, яе адраджэння.

Ну што перашкаджае бацьку з сынам разам узяць падручнікі і адну гадзіну ў дзень прысвяціць беларускай мове? Адну гадзіну, спадар Лукашэнка, болей не трэба! Прычым акцэнт беларускі Вы і цяпер маеце.

Я тое параіў бы і астатнім змагарам за білінгвізм, калі яны не ворагі свайму народу. Але ж яны ўсе з начальнікаў бальшавіцкай эры. А як бальшавіцкі начальнік і камуніст-інтэрнацыяналіст уважыць нашу мову? Яны ж натрэніраваныя толькі на тую, на якой гаварыў іх правадыр.

Эх, спадар Лукашэнка, здаецца, разумны Вы чалавек, а ў такую кампанію трапілі. Нават выбаршчыкі ў Вас нейкія асаблівыя, калі быццам бы даюць наказы, каб іхні дэпутат не валодаў беларускай мовай.

Эх, спадары ветэраны-інтэрнацыяналісты-камуністы! Адумайцеся хоць напрыканцы. Правядзіце апошняе пасяджэнне прыстойна, без бальшавіцкага ляманту, прыміце закон, які б гарантаваў вам добрую пенсію і іншыя прывілеі, але і магчымасць народу абраць кампетэнтных і нацыянальна свядомых новых дэпутатаў, ды і жывіце спакойна на дачах. Вам за такі ўчынак народ усе папярэднія грахі даруе, а можа, у Менску і помнік калі паставіць за памяркоўнасць.

Алесь СІЛІЧ,
старшыня Светлагорскай рады БНФ.

# У Вільню — па Віленскай

26 траўня 1993 года ў Радашковічах адбылася чарговая сесія пасялковага Савета народных дэпутатаў. Сярод шматлікіх пытанняў абмяркоўвалася і пытанне аб захаванні гістарычнай спадчыны і перайменаванні вуліц. У сваім дакладзе я прапанаваў некаторым вуліцам вярнуць гістарычныя назвы, а новым надаць імёны тых людзей, што залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю Беларусі. У выніку галасавання чатыром вуліцам вернуты старыя назвы. Што да астатніх, то рашэнне пытання адкладзена да чарговай сесіі. На карце горада засталіся вуліцы Пушкіна, Горкага, Даватара, Ракасоўскага, Пралетарская, Савецкая. 8 Сакавіка і няма на ёй вуліц імя Коласа, Рак-Міхайлоўскага, Лявіцкіх, Аляшкевіча, Дыбоўскіх, Тышкевічаў, Чаховіча, Уласава, Драздовіча, Сыракомлі... А пакуль у Вільню можна ўжо ехаць па Віленскай, але ў Менск — па Савецкай.

Мікола ЛІННІК,
намеснік старшыні пассавета, сябра ТБМ і БНФ.



## Беларусь

**26—27 чэрвеня ў Дзяржаўным цырку (Менск) адбудуцца канцэрты з удзелам вядомых беларускіх бардаў і рок-спевакоў пад назвай «Рок новай хвалі».**

Альгерд БАХАРЭВІЧ.

### У ГОНАР ПАЎСТАННЯ

**Адбылося пасяджэнне Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па святкаванні на Беларусі 200-х угодкаў вызваленчага паўстання 1794 г. Прыняты зварот да беларускага народа, дзе акцэнтуецца ўвага на беларускім праваслаўным паходжанні кіраўніка паўстання Тадэвуша Касцюшкі.**

**Падобныя камітэты створаны ў Польшчы, Летуве, Францыі, ЗША, а юбілей паўстання адзначаны ў календары ЮНЭСКА.**

Паўлюк ЛОСЬ.

### «РЫМ-4»

З 28 чэрвеня па 2 ліпеня ў Гародні пройдзе Міжнародная навуковая канферэнцыя «Рым-4». Яе арганізавалі міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Скарынаўскі цэнтр, Гарадзенскі універсітэт і Рымскі камітэт, куды ўваходзяць вядучыя гісторыкі Беларусі, Украіны, Летувы і Расіі. Канферэнцыі ўжо праходзілі ў Рыме, Любліне, Камянцы-Падольскім, а цяпер прыйшла чарга Гародні. Навукоўцы збіраюцца абмеркаваць суадносіны нацыянальных і рэгіянальных культур сумежжа.

### БАРКАЛАБАЎСКАЕ КУПАЛЛЕ

**У ноч з 6 на 7 ліпеня ў вёсцы Баркалабава Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці адбудзецца традыцыйнае вясковае Купалле: купальскія карагоды, спевы, гульні, ушанаванне Іванаў ды Мар'яў. Пошук папараць-кветкі пачнецца з... пакланення Баркалабаўскай іконе Божае маці. Купалле рыхтуецца супрацоўнікамі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.**

Паўлюк ЛОСЬ.

## Латвія

### ПАПУЛЯРНАСЦЬ ПАРТЫЙ

**Як паведаміў Латвійскі цэнтр сацыялагічных даследаванняў, першае месца па папулярнасці сярод насельніцтва ў передвыбарным спісе партый і арганізацый займае саюз «Латвійскі шлях» (21%), другое месца — у кааліцыі «Згода Латвіі адраджэнню народнай гаспадаркі» (13%), затым ідзе «Сялянскі саюз» (7%), «Рух за нацыянальную незалежнасць Латвіі» (6%), а арганізацыі «Бацькаўшчына і Свабода», «Раўнапраўе» разам з Народным Фронтам Латвіі «Атмода» набралі б на выбарах па 4% галасоў.**

Таццяна ТУРЧЫНА.

## ЧЫТАЛІ?

**Першы нумар палітычнай, грамадскай і літаратурнай газеты пад гэтай назвай з'явіўся ў кіёсках «Саюздруку» беларускай сталіцы. Наклад новай газеты, заснавальнікамі якой выступілі Асацыяцыя беларускіх выданняў ТБМ імя Ф. Скарыны, а таксама Віталь Скалабан, Алесь Траяноўскі, Яўген Цумараў і Уладзімір Ягоўдзік,— тры з палавінай тысячы паасобнікаў.**

**Вітаючы з'яўленне «Менскай грамады», нельга не задацца адным важкім пытаннем: ці здолее газета заняць сваё аўтарытэтнае месца сярод выданняў, якія працуюць на беларускае Адраджэнне? У праграмным звароце рэдакцыйнай рады на гэты конт, у прыватнасці, паведамляецца: «Што ж мяркуем прапаноўваць чытачам на яе старонках? Гэта будуць матэрыялы пра тое, чым жыве сёння наша Беларусь — аб'ектыўнае асэнсаванне палітычных падзей і з'яў грамадскага жыцця, асвятленне дзейнасці палітычных арганізацый і поступу нацыянальнага адраджэння, ролі ў ім культуры, асветы, рэлігіі. Газета будзе рашуча змагацца супраць усялякіх праяў шавінізму, нацыянальнага нігілізму, нацыянальнай і рэлігійнай варожасці, любых злачынных дзеянняў супраць незалежнасці нашае дзяржавы. Не будзе забыта і тэма адраджэння агульначалавечай маралі, духоўнасці, гуманнасці ў грамадстве».**

# «МЕНСКАЯ ГРАМАДА»

**З грунтоўных матэрыялаў першага нумара вызначаюцца публікацыі Яўгена Цумарава «Толькі поўная незалежнасць» і Міколы Савіцкага «Распараджацца сваім лёсам». Народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Я. Цумараў імкнецца прааналізаваць праўдзівую сутнасць стаўлення да незалежнасці нашых уладных структур. Падказвае аўтар і шляхі, якімі трэба ісці да ажыццяўлення палітычных, дэмакратычных пераўтварэнняў. Пытанне нацыянальнай свядомасці разглядае ў сваім артыкуле Мікола Савіцкі. Пры гэтым аўтар робіць свае заўвагі да праграмы Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады «Крок за крокам», прынятай другім з'ездам партыі.**

**На апошняй старонцы «Менскай грамады» — верш Ларысы Геніюш, шэраг інфармацыйных матэрыялаў, а таксама артыкул «Падсоўваюць рэнегата» (пададзены без подпісу). У апошнім расказваецца пра сапраўднае нутро вядомага панславіста (ураджэнца Беларусі) Івана Саланевіча. Чаго варта, напрыклад, адно толькі яго выказванне: «Я стопрацэнтовы беларус і магу ганарыцца тым, што мяне ўзгадавалі па Пушкіну, ані на якімсьці Янку Купале, маю пагарду да патрыятызмаў у павятовым маштабе і да нацыянальнага будаўніцтва з соймам у Менску ці ў Вільні...»**

**Чаго бракуе новаму выданню, у характары якога цікаўны чытач, відаць, разабраўся? Найперш — свежай і арыгінальнай інфармацыі. Па ўсім відаць, што матэрыял нумара, які выйшаў у траўні, быў закладзены недзе яшчэ ў лютым. І другое (хутчэй не заўвага, а пажаданне)... Добра было б, каб «Менская грамада» не забылася пра радавога чытача (няхай сабе і з невысокім узроўнем свядомасці). Чаму б не надаць больш увагі тлумачэнням прыярытэтаў нацыянальна-дзяржаўнай палітыкі. Праўда, неабходнасць гэтага накірунку залежыць у першую чаргу ад таго, дзе і ў якім асяродку будзе распаўсюджвацца выданне.**

Ганна ЦІТАЎКА.

*Меркаванні*

# Неабходна два *а*

Часам можна пачуць, што праблема з беларускай пішучай машынкай вырашаецца проста: дастаткова, маўляў, уставіць літары *і* ды *ў*. На справе — трэба перарабіць клавіятуру. І вось чаму. Частотнасць літар беларускага тэксту іншая, чым расійскага, гэта мусіць знайсці адлюстраванне на клавіятуры.

Надзвычай ужывальная літара *а*. Яе ўдзельная частата ў тэксце на беларускай мове 0,1552! (Наступная па частаце літара *н* мае ўсяго толькі 0,0631 — у два з паловай разы радзей). Таму я прапаную, каб на клавіятуры былі дзве літары *а* — для правай і левай рукі. Трэба, каб побач стаяла *ць*. Недзе блізенька павінны стаяць *аў*, *ала* — вельмі пашыраныя канчаткі мінулага часу.

Чамусьці забыліся на апостраф. Яго трэба ставіць замест *ъ*. І ставіць не коску, а менавіта апостраф, каб не пераключаць рэгістр. Вядома, апостраф будзе з цягам часу заменены мяккім знакам у шэрагу словаў, тым не менш...

Коска, як самы ўжывальны знак прыпынку, мусіць стаяць у самым нізе справа, як гэта мы робім, пішучы ад рукі.

Цікава, ці ёсць нейкія пошукі ў гэтай галіне? Ці ёсць дзе-небудзь праект клавіятуры беларускай пішучай машынкі? Калі ёсць, то надрукуйце яго.

Другая мая думка такая. Пішучая машынка не раскоша, яна неабходна кожнаму інтэлігентнаму беларусу. Няма чаго чакаць, што нехта зробіць нам беларускую пішучую машынку. Трэба пільна ладзіць гэтую нескладаную вытворчасць у нас. А для лексікографаў трэба выпускаць пішучыя машынкі з двума шрыфтамі, прыкладам, беларускім і лацінскім, беларускім і грэчаскім.

Мікола БУСЕЛ.



## Азербайджан

### ЗВАРОТ ПРЭЗІДЭНТА ЗША

**У мясцовай прэсе надрукаваны ліст прэзідэнта ЗША Біла Клінтана прэзідэнту Азербайджана Эльчыбею ў адказ на зварот апошняга з прычыны акупацыі Кельбаджарскага раёна. Б. Клінтан выказаў заклапочанасць з прычыны апошніх падзей у Кельбаджары, асудзіў агрэсію і заклікаў кіраўнікоў Азербайджана не дамагацца рэваншу, а працягваць работу па ўрэгуляванні ў межах СБСЕ.**

Арыф ЮНУСАЎ.

## Латвія

### ГРАМАДЗЯНЕ ЛАТВІІ МОГУЦЬ ВАЛОДАЦЬ ЗБРОЯЙ

**У Латвіі дзейнічаюць 11 фірмаў, якія афіцыйна гандлююць зброяй, дазвол на нашэнне якой можна атрымаць у адпаведнасці з законам ад 1 траўня бягучага года. Начальнік аддзела дэпартамента паліцыі па ліцэнзаванні Андрэй Мелналксніс паведаміў, што тыя, хто выказаў жаданне набыць ліцэнзію на гандаль зброяй і боепрыпасамі, будуць праходзіць сур'ёзную праверку ў адпаведных структурах дэпартамента.**

Таццяна ТУРЧЫНА.

# *Нам засталася спадчына*



Гасцям пагранічнага Брэста звычайна паказваюць крэпасць ці шматпавярховыя мікрараёны. Але ёсць яшчэ і стары Брэст, дзе захавалася былая архітэктура, дзе ціхія і маляўнічыя вулачкі, дзе адчуваеш сябе на дзіва ўтульна і заспакоена. У Брэсце ўсё гэта ўласціва старым раёнам: Кіеўцы, Граеўцы, Дуброўцы, Кавалёўцы, Пугачоўцы.

Апошнім часам гарадскія ўлады сталі надаваць больш увагі гэтым куточкам Брэста. Маладзеюць, ажываюць старыя кварталы.

**На здымку: гэтаму будынку на Першым Менскім завулку ўжо амаль цэлае стагоддзе.**

Фота Эдуарда КАБЯКА.
БЕЛІНФАРМ.

# ПАД КРЫЖАМ, З «ПАГОНЯЙ»...

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

фактычна не тое, што не дазволілі, а ва ўласнай дзяржаве чалавек быў адвучаны ад свае мовы. Гэта злачынства нашмат больше... Я лічу, што адзінай дзяржаўнай мовай на Беларусі павінна стаць беларуская... Усе астатнія, у тым ліку і руская, павінны быць мовамі нацыянальных меншасцей...»

Дэлегаты з удзячнасцю прымалі віншаванні ад Хрысціянска-Дэмакратычнага Народнага Фронта Малдовы (Думітру Осінаў), ад Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання ў Польшчы (Алег Латышонак), ад Грамады (Алег Трусаў), ад Аб'яднанай Дэмакратычнай партыі Беларусі (Аляксандр Дабравольскі), ад Беларускай Сялянскай партыі (Яўген Лугін), ад Саюза прадпрымальнікаў Беларусі (Уладзімір Карагін).

Цёпла сустрэлі дэлегаты старшыню Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў Міколу Статкевіча, у абарону якога перад пачаткам з'езда збіралі подпісы.

СПРАВАЗДАЧНЫ ДАКЛАД «БНФ І РАЗВІЦЦЁ ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАЦЭСАЎ НА БЕЛАРУСІ». З. Пазьняк згадаў перш пра крытыку дзейнасці Фронта, пра папрокі, «што лакаматыў БНФ пераганяе састаў». Ды Фронт мусіць ісці наперадзе, бо пастаўлена задача дапамагчы народу. Ніхто не наракае на пасіўнасць нашага народа. Надта ж доўга ён быў сагнуты ды звыкся з гэтым станам, а калі спрабуюць яго разгінаць, то баліць, і народ супраціўляецца...

Пасля старшыня БНФ гаварыў пра новыя задачы Фронта ў сучасных абставінах. Іх галоўны змест — вольны чалавек у вольнай Бацькаўшчыне. БНФ будзе імкнуцца ствараць умовы для здаровай сям'і праз стварэнне сацыяльнай эканомікі, падтрымоўваць парытэт правоў асобы і правоў нацыі.

НОВАЯ ПРАГРАМА БНФ. Яе прадставіў з'езду намеснік старшыні БНФ, прафесар Юры Хадыка. Праграма адлюстроўвае пераходны характар цяперашняга стану нашай рэспублікі. У ёй прапануюцца неадкладныя меры ва ўсіх галінах жыцця нашай краіны дзеля стварэння дэмакратычнай, незалежнай Беларусі. У раздзелах праграмы «Галоўныя каштоўнасці» («чалавек ёсць галоўная каштоўнасць»), «Раскрыццё асобы» («выявіць годнасць чалавека»), «Сацыяльная рынкавая гаспадарка» («стварэнне падставаў для паляпшэння жыццёвых умоваў усяго насельніцтва»), «Дзяржаўны лад» («наша мэта — стварэнне дэмакратычнай дзяржавы, якая імкнецца забяспечыць актыўны ўдзел грамадзян у палітычным жыцці, падмацоўваючы іх свабоду механізмам размеркавання і кантролю ўлады»), «Беларусь у свеце» («наша міжнародная палітыка павінна зыходзіць з інтарэсаў Беларусі і абумоўлівацца дабром яе народа») падаецца бачанне Фронтам блізкай будучыні Беларусі ў выпадку абрання дэмакратычнага парламента і стварэння ўрада на падставе прынцыпаў БНФ. А імі з'яўляюцца: грамадскае дабро, справядлівасць і салідарнасць.

Народны Фронт лічыць, што дзяржавы, размешчаныя паміж Балтыйскім і Чорным морамі, маюць аднолькавыя інтарэсы на Захадзе і аднолькавыя праблемы з Усходам. Народны Фронт бачыць увасабленне гэтай салідарнасці ў Балтыйска-Чарнаморскай садружнасці дзяржаваў (БЧС), якая дазволіць умацаваць і гарантаваць суверэнітэт кожнай з іх праз эканамічныя, гандлёвыя, мытныя сувязі.

Пасля грунтоўнага, вельмі крытычнага абмеркавання і ўдакладнення (дэлегаты падалі паўтысячы прапаноў) з'езд прыняў новую Праграму БНФ, а таксама шэраг ухвалаў.

На другі дзень патаемным галасаваннем былі абраны новы склад Сойму БНФ «Адраджэньне», старшыня БНФ Зянон Пазьняк (супраць яго было пададзена толькі 7 галасоў), яго намеснікі: Юры Хадыка. Уладзімір Заблоцкі ды Валянцін Голубеў.

СТВОРАНА ПАРТЫЯ БНФ. Беларускі Народны Фронт разумее, што выканаць такую грунтоўную (праект абдумваўся на працягу года), цэласную, канкрэтную, нават прыземленую (паводле ацэнкі аднаго з выступоўцаў) праграму можна, толькі выкарыстоўваючы дзяржаўную ўладу. А таму БНФ мусіць рыхтавацца да будучых выбараў. Ды сітуацыя цяпер ускладняецца. У павестку дня апошняй сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі прапанаваны праекты двух законаў: аб грамадскіх арганізацыях ды закон аб партыях. У першым з іх згадваецца пра розныя грамадскія арганізацыі, але яны не ставяць перад сабой палітычнай мэты, якая ёсць у Фронта. А закон аб партыях гаворыць толькі пра партыі. Такім чынам, Фронт могуць пазбавіць магчымасці ўдзельнічаць у будучых выбарах.

Гэтыя абставіны вымусілі БНФ прыняць прэвентыўныя меры, сутнасць якіх у тым, каб паставіць Фронт юрыдычна ў аднолькавыя юрыдычныя ўмовы з іншымі юрыдычнымі арганізацыямі — партыямі. Значыць, трэба ствараць партыю. Але БНФ — рух. І адной з самых асноўных яго вартасцей з'яўляецца адзінства Фронта, адсутнасць у ім фракцый. Адначасова з стварэннем партыі ў БНФ узнікае небяспека расколу.

Стваральнікі статута новай партыі распрацавалі праект такой структуры, якая нават тэарэтычна не можа прывесці да расколу ў БНФ. Было прапанавана лічыць мэтай Партыі БНФ ажыццяўленне праграмы Беларускага Народнага Фронта. Гэта азначае, што Партыя БНФ не мае свае праграмы, што гэта юрыдычная (!), заканспераваная структура, якая павінна замяніць Фронт, калі яму будзе забаронена ўдзельнічаць у выбарах.

Каб прадухіліць магчымасць дзейнічаць самастойна, прапанавана, што Сойм Партыі БНФ склікаецца з ініцыятывы старшыні Партыі БНФ і пасля прыняцця Вярхоўным Саветам Беларусі рашэння аб выбарах у выпадку, калі будзе заканадаўча абмежаваны ўдзел БНФ у выбарах.

На другі дзень, у перапынку работы III з'езда Беларускага Народнага Фронта, адбыўся ўстаноўчы з'езд Партыі БНФ, дзе быў прыняты Статут Партыі БНФ і Пастанова «Аб кіраўнічых органах і старшыні Партыі БНФ». Яны, паводле Статута, павінны быць ідэнтычнымі кіруючым органам Фронта, што дэлегаты ўстаноўчага з'езда практычна і выканалі.

ЗАКРЫЦЦЁ. У заключным слове З. Пазьняк выказаў задавальненне, што з'езд БНФ прайшоў арганізавана, паводле рэгламенту. Два дні гэтага з'езда паказалі: Фронт правільна разумее задачы руху, што аб'ядноўвае ўсе дэмакратычныя сілы, якія ўсведамляюць адказнасць за лёс Бацькаўшчыны. Ён згадаў пра пытанне, што задаў у першы дзень з'езда. Таямніцу ведаў Юрый Рыдзеўскі — інжынер гуказапісу тэатра імя Я. Купалы: у снежні 1917 года падлогу залы паднялі да ўзроўню сцэны. Так значна павялічылася плошча залы. З Чырвонага касцёла прынеслі лаўкі... Усе дэлегаты Першага Усебеларускага Кангрэса сядзелі, а не стаялі, як можна было ўявіць... Спадару Рыдзеўскаму аддалі прыз.

**Здзіслаў СІЦЬКО.**

P. *S.* На прэс-канферэнцыі, якую правялі госці, журналісты пыталіся пра адносіны да ідэі Балтыйска-Чарнаморскага саюза. Як высвятлілася, яна набірае папулярнасць.

В. Чарнавіл у сваім выступленні перад дэлегатамі сказаў: «Учора кіраўнікі Саюдзісу, БНФ і Народнага Руху Украіны дамовіліся пра тое, каб у Менску правесці канферэнцыю на лакальным, але важную для нас тэму — выхад з энергетычнага крызісу посткамуністычных дзяржаў Усходняй Еўропы».

# Айцец НАДСАН:

## ад перакладчыка рэлігійных тэкстаў патрабуецца не толькі свабоднае валоданне мовамі, але яшчэ і грунтоўная тэалагічная падрыхтоўка, адмысловы малітоўны настрой

*Колькі гадоў таму мне давялося ўпершыню трымаць у руках невялікія акуратныя брашуры, выдадзеныя лонданскім выдавецтвам «Божым шляхам». У асноўным гэта былі тэксты Літургій, іншых царкоўных службаў па-беларуску. Адразу звярнуў увагу, што пераклады зроблены Апостальскім Візітатарам для беларусаў у замежжы айцом Аляксандрам Надсанам, вядомым царкоўным і грамадскім дзеячам беларускай эміграцыі. Падчас свайго чарговага наведвання Беларусі ў сакавіку г. г. ён зноў прывёз дзяцей з Чарнобыльскай зоны лекі, прымаў удзел у святкаванні 75-х угодкаў Незалежнасці і быў госцем III З'езда ТБМ. Нягледзячы на такую шчыльную праграму, ён усё ж знайшоў магчымасць адказаць на пытанні аб сваіх перакладах царкоўных твораў. Былі закрануты праблемы перакладаў толькі ва ўсходнім (візантыйскім) абрадзе, у каторым служаць на Беларусі праваслаўныя і грэка-каталікі.*

**— Айцец Аляксандр, з чаго пачалася Ваша праца перакладчыка тэкстаў царкоўных службаў на беларускую мову?**

— Згадзіцеся, што становішча, калі вернік не можа звярнуцца са словамі малітвы да Бога на сваёй роднай мове, нельга назваць нармальным. Вельмі даўно трывожыла такая думка і мяне. Нарэшце, у 1960 годзе, а я ў той час вучыўся ў семінарыі, адважыўся зрабіць пераклад Літургіі Яна Залатавуснага на беларускую мову. Паказаў яго паважаным старэйшым святарам і ўладыку Сіповічу, які тады толькі-толькі быў прызначаны біскупам. Яны крыху пасмяяліся, падзякавалі і... параілі займацца іншымі справамі. Гэта зусім не значыла, што пераклад атрымаўся вельмі благі ці яны не любілі сваёй мовы — проста, відаць, час яшчэ тады не прыспеў. Так скончылася мая першая спроба стаць перакладчыкам.

Прайшло два дзесяткі гадоў. Кіраўніцтва Каталіцкай Царквы заахвочвала святароў да вядзення службаў у нацыянальных мовах, таго ж жадалі і вернікі. Хоць грэка-каталіцкія святары і раней чыталі Святое Пісанне, гаварылі казані па-беларуску, але адчулася патрэба поўнага панавання роднай мовы ў нашых цэрквах. Таму недзе на пачатку 80-х гадоў я зноў вярнуўся да сваіх перакладаў і займаюся імі і цяпер.

**— А з якой мовы Вы, айцец Аляксандр, робіце пераклады, ці дапамагае Вам хто?**

— Тэксты Літургій ды іншых царкоўных службаў, як вядома, першапачаткова складаліся на грэчаскай мове, якую мне пашчасціла добра вывучыць. Перакладаю толькі з арыгінала, заўсёды параўноўваю свае пераклады з перакладамі на царкоўнаславянскую мову, некаторыя заходнееўрапейскія. Звычайна першымі чытачамі і дарадцамі бываюць студэнты з Беларусі, што цяпер навучаюцца ў Лондане.

Будзе несправядліва, калі я не назаву тут імя Гая Пікарды — шчырага сябра лонданскіх беларусаў, даследчыка беларускай царкоўнай культуры. Цяпер ён займаецца перакладам беларускамоўных тэкстаў на музыку. Той, хто хоць крыху знаёмы з васьмітонавымі спевамі візантыйскага абраду, зможа ацаніць, за якую вялізную і адказную працу ўзяўся Гай Пікарда. Шчырая яму падзяка!

**— Што ёсць асаблівага ў працы над перакладамі царкоўных тэкстаў?**

— Ад перакладчыка рэлігійных тэкстаў патрабуецца не толькі свабоднае валоданне мовамі, але яшчэ і грунтоўная тэалагічная падрыхтоўка, адмысловы малітоўны настрой.

Тэксты царкоўных службаў у значнай меры абапіраюцца на Святое Пісанне, цалкам прымальнага перакладу на беларускую мову якога пакуль не існуе. Гэта значна ўскладняе працу. Тым не менш, за 10 гадоў перакладзены амаль увесь цыкл царкоўных малітваў, Акафіст Багародзіцы, некаторыя іншыя рэчы.

Дарэчы, такая перакладчыцкая праца дае добрую магчымасць асэнсаваць усё багацце і незвычайную прыгажосць нашай мовы.

**— Айцец Аляксандр, у беларускай мове існуе некалькі адпаведнікаў царкоўнаславянскаму слову «благословение». Які з гэтых адпаведнікаў ужываеце Вы?**

— Сапраўды, слова «блага» ў беларускай мове мае зусім супрацьлеглае значэнне, чым у царкоўнаславянскай, рускай ды ўкраінскай. Таму «благословение» часта перакладаецца, як «добраславенне», «богаславенне». І хоць першы з гэтых адпаведнікаў зусім дакладна перадае сэнс, я ўсё ж карыстаюся іншым словам — «блаславенне» (блаславаўляць, блаславёны). Гэтае слова ў свой час ужывалі Янка Купала, мову якога навукоўцы паважаюць за ўзор чысціні, некаторыя вядомыя беларускія святары. У наш час ім карыстаецца, прыкладам, паэт Рыгор Барадулін. Так што слова «блаславенне» мае дастаткова глыбокія карані ў нашай мове, на што няварта забывацца.

**— Скажыце, а ці ўжываюць родную мову на Беларусі ў праваслаўных цэрквах?**

— У Рускай Праваслаўнай Царкве, напэўна, не. Што да эміграцыі, то вернікі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Паўночнай Амерыцы карыстаюцца перакладамі ўладыкі Мікалая з Таронта. У нашых з уладыкам перакладах ёсць значныя разбежкі ў тэрміналогіі, стылістыцы. З'ява гэта прыкрая, але, спадзяюся, часовая, бо рана ці позна мы прыйдзем да еднасці, у тым ліку ў тэкстах, хоць шлях гэты няпросты і будзе яшчэ, напэўна, досыць доўгі.

**— Айцец Аляксандр, ці сапраўды ёсць такая вялікая патрэба ў беларускай мове ў царкве? Можа, варта і далей карыстацца царкоўнаславянскай?**

— Я ўпэўнены, што пастыр павінен несці людзям Боскае слова ў зразумелай ім мове. Успомнім нашых славянскіх асветнікаў Кірылу і Мятода, каторыя спецыяльна склалі іменна славянскую азбуку і спецыяльна ж пераклалі на царкоўнаславянскую мову Біблію і тэксты службаў. Менавіта яны першымі на нашай зямлі такім чынам зрабілі малітвы зразумелымі ўсходнім славянам. Але час ішоў, народная гаворка ўсё больш аддалялася ад царкоўнаславянскай мовы, і — як вынік — паўстала пытанне перакладу Бібліі і службаў на беларускую мову. Вось чаму я лічу сваю працу, працу ўладыкі Мікалая, іншых перакладчыкаў працягам той вялікай справы, што пачалі на славянскіх землях грэкі Кірыла і Мятод.

Канешне, ніхто не адмаўляе права вернікаў і святароў маліцца на царкоўнаславянскай мове, але не трэба рабіць з яе догму. Калі чалавек толькі-толькі прыйшоў да Бога, а ў храме службы вядуцца выключна па-царкоўнаславянску, то яму будзе вельмі няпроста зразумець сэнс малітваў. А дадайце да гэтага яшчэ глыбокую сымбалічнасць літаральна кожнага руху і фразы ў нашым абрадзе.

Я і многія іншыя беларускія святары былі вымушаны пакінуць Бацькаўшчыну, але нават на чужыне мы захоўваем родную мову ў царкве. Слушна сказаў апостал Павел, што «калі я малюся ў незнаёмай мове, дык дух мой моліцца, але розум мой застаецца бясплодным». Таму заклікаю дарагіх суродзічаў не забывацца на беларускую мову, каб слова Боскае дасягала сэрца нашага і пазнавалася розумам нашым!

**Распытваў Ігар ІВАНОЎ.**

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

*У. Емяльянчык, П. Лойка, Г. Сагановіч*

# Беларусь: часы ваеннага ліхалецця, анархія ў краіне, страта дзяржаўнай незалежнасці

**Працяг. Пачатак у № 24.**

Хоць у выніку Паўночнай вайны (1700—1721) Рэч Паспалітая (як і Беларусь) захавала свае ранейшыя межы, яна канчаткова страціла рэальны суверэнітэт і ўжо не магла вызваліцца ад згубных умоў і пагадненняў, якія ўсё настойлівей дыктаваў ёй магутны ўсходні сусед. Для Беларусі ж вайна мела асабліва трагічныя вынікі. Край ізноў быў уваганы ў дэмаграфічны і эканамічны крызіс. Насельніцтва Беларусі, якое ў 1700 г. складала 2,2 мільёна чалавек, змяншылася на трэць. Сельская гаспадарка, рамёствы, мануфактурная прамысловасць — усё зноў апынулася ў глыбокім заняпадзе: пуставалі сялянскія палі, дзічэлі, зараcталі лесам вёскі, чарнелі галавешкамі спаленыя гарады.

У XVIII ст. ВКЛ знаходзілася ў стане рэзкай канфрантацыі розных магнацкіх груповак. У 60-х — пачатку 70-х гг. XVII ст. рагарэлася барацьба паміж Радзівіламі, з аднаго боку, Сапегамі і Пацамі — з другога. Але ўжо ў другой палове 70-х — першай палове 80-х гг. тыя ж Пацы, знаходзячыся ў апазіцыі да новага караля Яна Сабескага, канфрантуюць з Сапегамі і Агінскімі. А калі ў другой палове 80-х гг. XVII ст. Сапегі ўмацавалі сваё становішча ў дзяржаве, супраць іх агульным фронтам выступіла беларуска-літоўская шляхта, якая групавалася вакол Агінскіх (былых саюзнікаў Сапегаў) і Вішнявецкіх. Гэтае супрацьстаянне перарасло практычна ў грамадзянскую вайну, якая ў першыя гады XVIII ст. раздзірала беларускія землі.

Няпэўнасці палітычнага курсу спадарожнічала нетрываласць улады. У маі 1704 г. ствараецца Сандамірская канфедэрацыя прыхільнікаў Аўгуста II. Ёю заключаецца саюз з Расіяй і аб'яўляецца вайна Швецыі. А практычна праз 2 месяцы па ініцыятыве Карла XII нараджаецца на свет канфедэрацыя, якая абвяшчае каралём Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага. У які раз грамадства Рэчы Паспалітай зноў падзяляецца на варожыя станы, зноў узнікае канфрантацыя, якая вядзе да трагедыі: прыцягнення знешніх сіл для вырашэння ўнутраных супярэчнасцей. Восенню 1704 г. руская армія пад камандаваннем Рапніна ўступіла на беларускую зямлю. І цяпер на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, а галоўным чынам, на беларускай зямлі, свае рахункі зводзілі Расія і Швецыя.

Самую дакладную характарыстыку тагачаснаму становішчу Рэчы Паспалітай дала сама шляхта ў прыказцы «Польшча трымаецца на бязладдзі». Бязладдзе стала вынікам развіцця «залатых» шляхецкіх вольнасцей ці, лепш сказаць, злоўжывання імі. Ужо ў другой палове XVII ст. стала відавочным, што пашырэнне шляхецкай дэмакратыі пры паслабленні цэнтральнай каралеўскай улады вядзе да пераходу ўсёй улады ў рукі алігархаў, якія фінансава закабалялі шляхту. Але ніводная з груповак не мела сілы ўзяць уладу. Сілы хапала толькі на тое, каб не дапусціць да ўлады праціўнікаў. Адсюль — разгул анархіі. Прычым пад праслаўленне тых жа «залатых» вольнасцей.

Але непарадак у Рэчы Паспалітай ахоўвалі суседзі. Так, расійска-прускі саюзны дагавор 1764 г. меў сакрэтны артыкул, паводле якога саюзнікі абавязваліся захоўваць у Рэчы Паспалітай шляхецкую канстытуцыю, вольныя выбары караля і інш.

Рэч Паспалітая, якая з 60-х гг. XVIII ст. пачала інтэнсіўна праводзіць рэфармацыйную дзейнасць, пэўна ж, здолела б пераадолець і палітычны крызіс. Так, становучыя вынікі ў эканамічнай сферы мелі рэформы Тызенгаўза, дзякуючы якім на паўночным захадзе Беларусі з'явілася даволі значная колькасць мануфактур. У 1764 г., а затым у 1775 урад Рэчы Паспалітай уводзіць абавязковы для ўсіх саслоўяў, у тым ліку шляхты і духавенства, адзіны мытны падатак. У 1766 г. усталёўваецца адзінства мераў і вагаў на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Вядзецца актыўнае транспартнае будаўніцтва. У 1773—1775 гг. фарміруецца «Адукацыйная камісія», якая дала пачатак рэформам у галіне асветы.

Расія і Прусія пасадзілі на каралеўскі трон свайго стаўленіка Станіслава-Аўгуста Панятоўскага. Яны і карэктавалі ягоную палітычную лінію згодна з папярэдняй дамоўленасцю паміж сабою аб захаванні рэакцыйнай канстытуцыі Рэчы Паспалітай.

У 60-я гг. XVIII ст. Расія і Прусія яшчэ шукалі зачэпак, каб дыктаваць сваю волю Рэчы Паспалітай. Такой зачэпкай стала «дысідэнцкая» праблема. Расійскім бокам было рубам пастаўлена пытанне поўнага ўраўнавання ў правах некаталікоў («дысідэнтаў») з каталікамі згодна з дагаворам Расіі з Рэччу Паспалітай 1686 г. Сойм становча гэтага пытання не вырашыў, чым кінуў Рэч Паспалітую ў апошняе трыццацігоддзе крывавых, непатрэбных для выратавання дзяржавы канфліктаў. Пад патранажам Расіі і Прусіі ў 1767 г. у Слуцку стварыліся праваслаўная, а ў Торуні пратэстанцкая канфедэрацыі, якія ставілі мэтай дасягненне роўнасці вернікаў розных канфесій Рэчы Паспалітай. Апошнім аргументам у спрэчцы паміж Слуцка-Торуньскімі канфедэратамі і соймавымі засядацелямі на карысць першых было 40-тысячнае расійскае войска.

У 1768 г. Сойм задаволіў памкненні «дысідэнтаў» і даў ім роўныя правы з каталікамі. Гэта, у сваю чаргу, не задаволіла гарачых прыхільнікаў «залатой» шляхецкай вольнасці, якія арганізавалі ў Бары (на Украіне) канфедэрацыю, што аб'яднала даволі шырокія колы шляхецкага саслоўя Рэчы Паспалітай. Значную падтрымку барскія канфедэраты займелі і на Беларусі. Аднак супрацьстаяць моцы расійскага войска канфедэрацкія атрады не змаглі. На працягу 1768—1771 гг. яны былі разбіты. Пасля гэтых падзей пад уздзеяннем абвостранай міжнароднай сітуацыі адбываецца першы падзел Рэчы Паспалітай паміж Расійскай імперыяй, Прусіяй і Аўстрыяй. У 1772 г. да Расіі адыходзіць Усходняя Беларусь.

3 мая 1791 г. была абвешчана канстытуцыя, якая павінна была вывесці Рэч Паспалітую з палітычнага крызісу і паставіць на шлях буржуазных рэформ. Гэтая падзея інспіравала арганізацыю чарговага «крыжовага паходу» супраць Рэчы Паспалітай (зноў пад сцягам непарушнасці шляхецкіх прывілеяў). Цяпер для ўмяшання ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай Расійскай імперыі нават не патрабавалася нейкай зачэпкі. Пад рукою Кацярыны II 14 мая 1792 г. з прадстаўнікоў старашляхецкай партыі ўтварылася таргавіцкая (ад назвы ўкраінскага мястэчка Таргавіца) канфедэрацыя, якая ўслед за 100-тысячным расійскім войскам ужо 18 мая ўвайшла ў Рэч Паспалітую, каб абараніць нібыта парушаныя тут шляхецкія правы.

Рэфарматарская канстытуцыя фактычна прывяла да пераўтварэння «Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў» ва ўнітарную дзяржаву. За манархам захоўваўся толькі адзін тытул — караля польскага. Перастаў існаваць гістарычны падзел дзяржавы на Вялікае княства Літоўскае і Польшчу.

Расійскаму войску спатрэбілася толькі 2 месяцы, каб разбіць дэзарганізаванае войска Рэчы Паспалітай. Прычым баявыя дзеянні зноў адбываліся на тэрыторыі Беларусі (Опса, Мір, Зэльва, Бярэсце). Натуральна, канстытуцыя 3 мая была адменена, а затым у студзені 1793 г. адбыўся і другі падзел Рэчы Паспалітай, умовы якога былі зацверджаны на Гродзенскім сойме 1793 г. Да Расіі адышлі беларускія землі прыкладна па лініі Друя—Пінск.

Стала зразумелым, што ад канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай паміж Расійскай імперыяй, Прусіяй і Аўстрыяй можа выратаваць толькі рашучае супрацьстаянне гэтым сілам кансалідаванага грамадства. Такога не адбылося. Хоць паўстанне 1794 г., на чале якога стаў прадстаўнік старадаўняга беларускага шляхецкага роду Тадэвуш-Андрэй Касцюшка, давала для гэтага апошні шанц.

Паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі вядзе свой пачатак ад абвяшчэння 24 сакавіка 1794 г. Кракаўскага акта паўстання. У ім былі вызначаны асноўныя мэты паўстанцаў: пазбаўленне ад іншаземнай акупацыі, барацьба за поўную суверэннасць Рэчы Паспалітай, аднаўленне яе ў межах 1772 г., вяртанне рэфарматарскіх рашэнняў Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Лозунг паўстання — «вольнасць, цэласць, незалежнасць» — стаў таксама лозунгам касцюшкаўцаў і на Беларусі.

У кіраўніцтве паўстаннем «на Літве» (вядучую ролю адыгрывалі Я. Ясінскі, П. Грабоўскі, Ю. Гарноўскі, К. Эльснер і інш.) назіраюцца дзве плыні. Адна з іх, радыкальная, альбо «якабінская», на чале з Ясінскім, і другая — «умеркаваная», прадстаўленая магнатствам і заможнай шляхтай. Першыя імкнуліся да як мага больш рэвалюцыйных змен у грамадстве ў духу французскай рэвалюцыі. Яны выступалі за ліквідацыю паншчыны і прыгону, адстойвалі раўнапраўе мяшчанства, падтрымлівалі ідэю ўтварэння рэспубліканскага ладу. Такі падыход да мэтаў паўстання, рэалізацыя якіх істотна закранала і нават мяняла становішча магнатэрыі і заможнейшай шляхты, не мог падабацца «ўмеркаваным». Асноўнага свайго ворага апошнія бачылі ў асобе непрымірымага рэспубліканца Ясінскага. Да Касцюшкі неаднаразова накіроўваліся пасланнікі «ўмеркаваных» з прапановамі замяніць, адклікаць «з літвы» Я. Ясінскага. Чаго ў рэшце рэшт яны і дабіліся.

Падзеі, звязаныя з паўстаннем Т. Касцюшкі на Беларусі, ахопліваюць час з красавіка па канец верасня. Для першага перыяду (красавік — чэрвень) характэрны найбольш актыўныя дзеянні паўстанцаў і, наадварот, нерашучасць і асцярожнасць у дзеяннях расійскага войска. Гэта было выклікана поспехамі паўстанцаў і перамогай Т. Касцюшкі пад Рацлавіцамі (4 красавіка), поспехам паўстання ў Варшаве (18 красавіка) і ў Вільні. У гэты перыяд расійскія войскі, пазбаўленыя агульнага плана дзеянняў, атачаныя з усіх бакоў паўстанцамі ў чужым краі, манеўруючы, адступалі. Так, атрад князя Цыцыянава 9 мая пакідае Гародню і адыходзіць у напрамку Нясвіжа. Урэшце расійскія войскі займаюць пазіцыю прыкладна ўздоўж мяжы падзелу Рэчы Паспалітай 1793 г.

А ў Гародню 14 мая перабіраецца павятовая «парадкавая камісія», утвораная 9 мая ў Саколцы. Яна пачынае актыўную працу па фарміраванні паўстанцкага войска. На 7 чэрвеня ў гарадзенскім павеце было мабілізавана па паўстанне да 5 тысяч рэкрутаў.

Найбольш небяспечнай для расійскага боку бачылася магчымасць пашырэння паўстання на тэрыторыі Беларусі, якая тады была ўжо далучана да Расіі. На тое былі свае падставы. Панічныя рапарты з Нясвіжа да імператрыцы дасылае генерал-губернатар «мінскі, ізяслаўскі і брацлаўскі» Туталмін. Ён не перастае дамагацца ў князя М. Рапніна, прызначанага рэскрыптам Кацярыны II ад 22 красавіка 1794 г. камандуючым расійскім войскам на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, узмацнення мяжы 2-га падзелу больш значнымі сіламі. Адначасова паведамляе аб падазроных з'ездах шляхты, пашырэнні паўстанцкай агітацыі і збіранні зброі нават сялянамі. Пачынаецца тэрміновае ўмацаванне фартыфікацыйных збудаванняў у Нясвіжы. Сучаснікі адзначаюць атмасферу агульнай панікі сярод адміністрацыі ў Менску. Былі зроблены захады да магчымага пераводу ў Слуцк у выпадку небяспекі менскіх кас і архіваў. Справа даходзіла да таго, што ад афіцэраў, якія прыбывалі з ахопленых паўстаннем тэрыторый Рэчы Паспалітай, пад прысягай патрабавалі, каб маўчалі аб усім, што там бачылі.

1 чэрвеня Я. Ясінскі выдае загад павятовым органам кіравання паўстаннем аб стварэнні 300 асабовых конных атрадаў з усіх прыдатных трымаць зброю людзей. Гэтыя атрады павінны былі перасекчы межы другога падзелу і распачаць партызанскія дзеянні ў тыле расійскага войска. Для лепшай арганізацыі справы Ясінскім была складзена спецыяльная «Інструкцыя для ўваходзячых у кардон расійскі». Апрача арганізацыйных вайсковых пытанняў, у «Інструкцыі» асаблівая ўвага звярталася на ўздзеянне на мясцовае насельніцтва, каб «захвочваць шляхту і люд» да паўстання. Гэтая ініцыятыва была ўхвалена Т. Касцюшкам, які сам праз два тыдні выдаў аналагічны універсал.

Найбольш буйныя рэйды на тэрыторыю Беларусі зрабілі атрады паўстанцаў пад кіраўніцтвам М. К. Агінскага (на Дынабург — сённяшні Даўгаўпілс) і С. Грабоўскага (на Меншчыну) у жніўні 1794 г. Атрад М. Агінскага налічваў каля 2,5 тыс. чалавек, з іх да 1 тысячы конных. Пяхоты было каля паўтары тысячы чалавек, з якіх толькі 300 чалавек мелі стрэльбы. Астатнія 1200 чалавек былі ўзброены пікамі і косамі. Гэта пераважна былі сяляне. Пакінуўшы ў Дусятах асноўную частку свайго атрада, М. Агінскі з трымястамі найбольш падрыхтаванымі і ўзброенымі паўстанцамі накіраваўся да Дынабурга. Але ўзяць горад не ўдалося. Было толькі спалена яго прадмесце.

Атрад С. Грабоўскага пры ўваходзе на Меншчыну налічваў крыху болей за 2 тысячы чалавек. Адной з галоўных мэт рэйду С. Грабоўскага было адцягненне сілаў ворага на сябе з Вільні і Гародні. Адначасова псаваліся камунікацыі, разбураліся масты, рабіліся засекі на дарогах. Атрад С. Грабоўскага таксама быў недастаткова ўзброены і падрыхтаваны. Абмінуўшы Менск, атрад рушыў праз Пухавічы на Бабруйск. Там быў знішчаны невялікі гарнізон. Але супрацьстаяць вялікім расійскім сілам атрад С. Грабоўскага доўга не мог, таму вымушаны быў павярнуць назад. 4-га верасня пад Любанню ён быў разбіты. А сам С. Грабоўскі трапіў у палон. Толькі невялікая частка яго атрада здолела выратавацца.

Паступова ініцыятыва пераходзіць да расійскага боку. 26 чэрвеня Я. Ясінскі не здолеў перамагчы ў бітве пад в. Солы аб'яднаных расійскіх сіл пад кіраўніцтвам М. Зубава і Бенігсена. Пасля чаго Ясінскі ад'язджае ў Варшаву. З гэтага часу расійскія войскі пераходзяць да наступальных дзеянняў. Тэрыторыя паўстання на Беларусі пачынае звужацца. На сярэдзіну ліпеня расійскія войскі кантралявалі ўсё Навагрудскае ваяводства і частку Берасцейскага.

●

**(Матэрыял скарочаны; тэкст да друку падрыхтаваў М. ВІЖ.)**

*Працяг будзе.*

# Вучымся!

## УРОК ДВАЦЦАЦЬ ДРУГІ

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце скорагаворку, запомніце. Прагаварыце хутка тры разы.

Рагатун Рыгорка родам
З Рагачова горада.
Як захоча,
Зарагоча
Рагатлівым рогатам.

**Э. Агняцвет.**

2. Прачытайце лічэбнікі, захоўваючы правілы вымаўлення выдзеленых зычных і іх спалучэнняў.

Дваццаць дзевяць
трыццаць сем
пяцьдзесят шэсць
шэсцьдзесят восем
семдзесят пяць
восемдзесят чатыры
дзевяноста дзевяць
дзвесце сорак два
чатырыста дваццаць дзевяць
семсот пяцьдзесят тры
восемсот шэсцьдзесят чатыры
дзевяцьсот трыццаць сем
трыста семдзесят пяць
пяцьсот восемдзесят шэсць

3. Прачытайце верш А. Пысіна, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў.

### Дарога

Выносяць гарачыя коні
Хлопцаў з пералеску на шлях.
Паехалі бубны, гармоні
На развітальных вазах.

Далёка, далёка яны ўжо,
А маці глядзіць з-пад рукі.
Маністы чырвоныя ніжа
Каліна ля ціхай ракі.

Каліна вясны дачакае
І цветам сыпне па вадзе.

Дарога, дарога якая
Ў свет сына далей павядзе?

...Дарога салдата крутая,
Нялёгка яе пракладаць.
А доля ўсіх матак такая —
Дарогам сыноў аддаваць.

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце выразна верш А. Вярцінскага. Раскажыце, якія жахі вайны перанёс беларускі народ у час Вялікай Айчыннай вайны?

### Рэквіем па кожным чацвёртым

*У час мінулай вайны загінуў кожны чацвёрты беларус.*

*З дакумента.*

Вы бачылі лес, дзе прагал скразны?
Скажыце, вы бачылі бор той,
дзе кожнай другой няма сасны
ці сама меней — чацвёртай?
Тое ж было і з народам маім.
Сякера ваеннай навалы
прайшлася бязлітасна па ім,
і — прагалы, прагалы.
..............................
Часта згаралі znічкі тады.
Быў небасхіл чорны.
А на зямлі стылі сляды —
кожны чацвёрты.

Мір асвятліў нас сваім святлом.
Грымелі ўрачыста акорды.
Толькі не быў за святочным сталом
Кожны чацвёрты...

Доўга не трацілі ўдовы надзей,
доўга чакалі маці дзяцей.
Не верылі, што мёртвы
кожны чацвёрты.

Помнім мы болі і страты свае,
памяць шуміць, як чароты.
О, як нам вас не стае —
кожны чацвёрты.

2. Прачытайце тэкст паводле І. Мележа і спішыце. Растлумачце правапіс выдзеленых слоў.

ВАРЫЯНТ І

*Камандуючы быў* поруч з шафёрам і, амаль *заплюшчыўшы вочы*, аб *нечым думаў*. Ззаду яго, бяссонна *пазіраючы ў цемру*, з напружаным, пільным выразам, у *нацятай* паставе *сядзеў* яго *паручэнец* Камароў.

На *пярэднім* краі час ад часу білі гарматы. Адтуль *каціліся ўсё* больш *моцныя* і *грымотныя* выбухі. Над небакраем, *акрэсліваючы чорныя* ляскі і *ўзгоркі*, успыхвалі *белыя* ракеты.

*Чым* больш набліжаліся да *дывізіі*, тым мацней *адчуваўся пярэдні край*. Былі *чуваць не толькі гарматныя* выбухі, але і частая *страляніна з кулямётаў*. Чарняхоўскі *зацікаўлена прыслухоўваўся:* ён любіў баявое *ажыўленне*.

ВАРЫЯНТ ІІ

З *далёкага* тылу паступова *падыходзілі* войскі розных *родаў — артылерысты*, танкісты, *пехацінцы*, сапёры, *расцякаліся* па нізкай, багатай балотамі і *лясамі раўніне*. Падвозілі *боепрыпасы. Безліч вялізных штабеляў* скрынак са снарадамі і бомбамі, пакуль *маўклівымі*, хавалі *ў лясах*, у выкапаных *траншэях*, старанна маскіравалі.

Фронт *жыў*, фронт *рыхтаваўся* да *баёў. І ўсё* ж гэта было *зацішша*. І ніхто, нават вельмі *высокія камандзіры, не мог* бы *сказаць*, калі гэтае *зацішша скончыцца*. Усе ведалі адно: павінна быць *наступленне. Адчуваннем* напружанай *падрыхтоўкі* да яго *жыла ўся* армія.

3. Прачытайце выразы і запомніце. Пабудуйце з імі (на выбар) дыялог.

***Вайскоўцам пра родную мову***

* * *

Адзін раз, аднойчы
два разы, двойчы
тры разы, тройчы
чатыры разы
сем разоў
раз у год, штогод
пяць разоў на тыдзень
два разы на дзень, двойчы ў дзень
колькі разоў
некалькі разоў, шмат разоў
першы раз, упершыню
сёмы (дваццаць першы) раз

* * *

Я маю грошы. У мяне ёсць грошы.
У мяне мала грошай.
Пазычце мне, калі ласка, грошай.
Размяняйце мне дваццаць пяць рублёў.
У Вас ёсць дробныя (грошы)?
Вам тры рублі рэшты.
Колькі вы заплацілі за...?

* * *

Да якой гадзіны працуе ўнівермаг?
Мне трэба ў секцыю гатовага адзення.
Дзе прадаюць прадметы хатняга ўжытку?
Які памер касцюма Вы носіце?
Колькі каштуе сукенка?
Дазвольце мне прымераць чорныя туфлі.
Дайце мне, калі ласка, боты на нумар большыя.
Гэтыя жаночыя туфлі ўжо не модныя.
Падайце мне, калі ласка, цюбік чорнай ваксы.
Ці да твару мне гэты капялюш?
Маме купілі ваўняную хустку.

4. Складзіце паведамленне паводле наступных сітуацый.

Вы ў кнігарні купляеце кнігі.
Вам неабходна купіць рэчы хатняга ўжытку.
Палічыце, ці хопіць у Вас грошай на ўсе пакупкі.

## Тлумачэнне новай тэмы: *Дзеяслоў*

**Дзеяслоў** — гэта часціна мовы, якая абазначае дзеянне або стан прадмета і адказвае на пытанні **што рабіць?** (пісаць, думаць), **што зрабіць?** (спісаць, падумаць).

Дзеяслоў мае неазначальную форму. Неазначальная форма дзеяслова канчаецца на **-ць, -ці, -чы**: **(што рабіць? што зрабіць?)** чытаць, прачытаць, несці, прынесці, бегчы, прыбегчы.

Дзеясловы могуць мець на канцы **-ся: стрыгчыся.** Частка слова **-ся** пасля **-ць** пераходзіць у **-ца:** мыць — мыц-**ца**, вучыць — вучыц-**ца.** Дзеясловы, якія канчаюцца на **-ся, -ца**, называюцца **зваротнымі.**

**Заўвага.** У расійскай мове трэба ведаць, калі ў дзеясловах пішацца **-ться,** а калі **-тся.** Гэта залежыць ад пытанняў (что делать? что делает?). У беларускай мове абедзве такія формы перадаюцца праз **-цца.**

| | |
|---|---|
| Что делать? мыться — | Што рабіць? мыцца |
| Что делает? моется — | Што робіць? мыецца |
| Что делать? стараться — | Што рабіць? старацца |
| Что делает? старается — | Што робіць? стараецца |

### ЗМЯНЕННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ АБВЕСНАГА ЛАДУ

Дзеясловы абвеснага ладу — гэта дзеясловы **цяперашняга, прошлага** і **будучага часу.**

### ЦЯПЕРАШНІ ЧАС

Дзеясловы цяперашняга часу маюць такія ж формы, як і ў расійскай мове: змяняюцца па асобах і ліках. Звярніце ўвагу, якія канчаткі могуць мець дзеясловы цяперашняга часу.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Я | бяр-**у** | пя-**ю** | вуч-**у** | рабл-**ю** |
| Ты | бяр-**эш** | пя-**еш** | вуч-**ыш** | роб-**іш** |
| Ён, Яна, Яно | бяр-**э** | пя-**е** | вуч-**ыць** | роб-**іць** |
| Мы | бяр-**ом** | пя-**ём** | вуч**ым** | роб-**ім** |
| Вы | бер-**аце** | пе-**яце** | вуч-**ыце** | роб-**іце** |
| Яны | бяр-**уць** | пя-**юць** | вуч-**аць** | роб-**яць** |

Змяненне дзеясловаў **бегчы, есці, даць** неабходна запомніць.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Я | бяг-**у** | ем | даю |
| Ты | бяж-**ыш** | ясі | даеш |
| Ён, Яна, Яно | бяж-**ыць** | есць | дае |
| Мы | бяж-**ым** | ядзім (ямо) | даём |
| Вы | беж-**ыце** | ясце (ясцё) | даяце |
| Яны | бяг-**уць** | ядуць | даюць |

### ПРОШЛЫ ЧАС

Дзеясловы прошлага часу змяняюцца па родах і ліках.

| | Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|---|
| Мужчынскі род: | чытаў, рос, мыўся | чыталі, раслі, мыліся |
| Жаночы род: | чытала, расла, мылася | |
| Ніякі род: | чытала, расло, мылася | |

### БУДУЧЫ ЧАС

| | | |
|---|---|---|
| Я | скаж-у | буду казаць |
| Ты | скаж-аш | будзеш казаць |
| Ён, Яна, Яно | скаж-а | будзе казаць |
| Мы | скаж-ам | будзем казаць |
| Вы | скаж-аце | будзеце казаць |
| Яны | скаж-уць | будуць казаць |

Дзеясловы будучага часу простай формы маюць такія ж канчаткі, як і адпаведныя ім дзеясловы цяперашняга часу: што робіш? **каж-аш** — што зробіш? **скаж-аш.**

### Некаторыя выпадкі кіравання дзеясловаў

| Гаворым па-беларуску | Гаворым па-расійску |
|---|---|
| 1. Падзякаваць **сябру**. | 1. Поблагодарить **друга.** |
| Не можа даравацъ **сабе.** | Не может простить **себя.** |
| Прабачым **яму.** | Извиним **его.** |

**Запомнім.** Дзеясловы **дзякаваць, аддзякаваць, падзякаваць, дараваць, прабачыць** спалучаюцца з назоўнікамі і займеннікамі ў форме давальнага склону.

| | |
|---|---|
| 2. Смяяцца **з яго.** | 2. Смеяться **над ним.** |
| Жартаваць **з Андрэя.** | Шутить **над Андреем.** |
| Дзівіцца **з яе.** | Удивляться **ей.** |
| Здзекавацца **з жывёлы.** | Издеваться **над животным.** |

**Запомнім.** Дзеясловы **смяяцца, насміхацца, жартаваць, кпіць, дзівіцца, здзекавацца** кіруюць назоўнікамі і займеннікамі ў форме роднага склону з прыназоўнікам **з.**

| | |
|---|---|
| 3. Іду **па** камандзіра. | 3. Иду **за** командиром. |
| Паеду **па** зброю. | Поеду **за** оружием. |
| Пойдзем **па** ваду. | Пойдём **за** водой. |
| Паедзеш **у** грыбы (ягады). | Поедешь **за** грибами (ягодами). |
| Збегаем **у** маліны. | Сбегаем **за** малиной. |

**Запомнім.** Дзеясловы руху **ісці, бегчы, ехаць, збегаць** і інш. кіруюць назоўнікамі і займеннікамі ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам **па**, калі залежнае слова абазначае прадмет ці асобу. Калі ж залежнае слова абазначае зборны прадмет, які неабходна нарыхтаваць, тады пры дзеяслове руху ставіцца назоўнік ў вінавальным склоне з прыназоўнікам **у.**

| | |
|---|---|
| 4. Ажаніцца з Таняй. | 4. Жениться **на** Тане. |

**Запомнім.** Дзеясловы **ажаніцца, ажаніць, пажаніцца, пажаніць** патрабуюць, каб залежны ад іх назоўнік ці займеннік стаяў у творным склоне з прыназоўнікам **з.**

### ЗАМАЦАВАННЕ.

Карыстаючыся слоўнікам, перакладзіце тэкст на беларускую мову.

Для строевого смотра батальон строится в развёрнутый строй, в линию взводных колонн или в двухшеренговый строй; командир батальона перед серединой батальона, в десяти шагах; барабанщик всего батальона на правом фланге в одной шеренге, в двух шагах правее командира головной роты; заместители командира батальона и начальник штаба батальона — в двух шагах правее барабанщиков. Если при батальоне будет оркестр, то барабанщики на фланг не вызываются, а оркестр становится в двух шагах правее командира правофланговой роты.

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

*Працяг. Пачатак у № 24.*

АД РЭДАКЦЫІ.

Прапанаваная ўвазе чытачоў «Нашага слова» «Гісторыя Беларусі ў пытаннях і адказах» не з'яўляецца механічным перадрукам папярэдніх публікацый «Звязды» і «Народнай газеты». Улічыўшы шматлікія пажаданні чытачоў, а таксама тое, што матэрыял знайшоў шырокую чытацкую аўдыторыю сярод школьнікаў і студэнтаў, укладальнікі і аўтары ўнеслі шэраг удакладненняў у паасобныя артыкулы, дастасуючы іх, наколькі гэта было магчыма, да педагагічных праграм. Гэтаксама імі выпраўлены сякія-такія хібы і недагляды, якія дзеля розных прычынаў прасачыліся ў папярэднія публікацыі.

Паважаючы пазіцыю навукоўцаў і іх права на перагляд стэрэатыпаў у гістарычнай тэрміналогіі, рэдакцыя «Нашага слова» друкуе матэрыял у такім выглядзе, у якім ён быў пададзены.

## Ці была на Беларусі татара-мангольская няволя?

Пасля ўтварэння на пачатку XIII стагоддзя Мангольскай дзяржавы ў выніку захопніцкай палітыкі Чынгісхана і ягоных нашчадкаў былі паняволены народы Сібіры, Паўночнага Кітая, Сярэдняй Азіі, Закаўказзя, Малой Азіі, Блізкага Усходу. У 1236—1243 гадах былі заваяваны велізарныя абшары Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, у тым ліку рускія і ўкраінскія княствы, спустошаны землі Малой Польшчы, Венгрыі, Маравіі, Славакіі, Чэхіі, Букавіны, Малдавіі, Румыніі... Мангольскія ханы стварылі адну з найвялікшых імперыяў свету, яны арганізоўвалі ваенныя экспедыцыі ў Егіпет, Паўднёва-Усходнюю Азію, Японію, на востраў Яву...

Беларусь не была паняволена татара-манголамі. Захаваліся паданні пра пераможныя бітвы нашых продкаў з імі пад Койданавам у 1249 годзе, каля Магільны, пад Акунёўкаю, але гэта, хутчэй за ўсё, легендарныя звесткі, якія трапілі на старонкі летапісаў значна пазней, у XVI стагоддзі. Беларусы змагаліся з татара-мангольскімі наездамі ў 1259, 1275, 1277 гадах. Аднак гэта былі менавіта наезды, уварванні. Беларусь ніколі не падпарадкоўвалася Залатой Ардзе, ніколі не ведала азіяцкай няволі. Тэрміны «татара-мангольскае нашэсце», «татара-мангольскае іга», «дамангольскі перыяд» і г. д. у дачыненні да беларускай гісторыі надуманыя. Тут, у адрозненне, скажам, ад рускіх земляў, якія 240 гадоў уваходзілі ў склад Залатой Арды, натуральны працэс гістарычнага развіцця не парушаўся, дзякуючы чаму, прыкладам, яшчэ стагоддзямі жыло веча — інстытут сярэдневечнай дэмакратыі, тым часам як у Маскоўскай дзяржаве ўсталявалася азіяцкая дэспатыя.

У беларускай гісторыі ёсць слаўная старонка, якая да апошняга часу замоўчвалася. Задоўга да хрэстаматыйна вядомай Кулікоўскай бітвы, яшчэ ў 1362 годзе, войска Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Альгерда разбіла каля Сініх Водаў войскі трох татарскіх ханаў. У выніку ўкраінскія землі былі вызвалены ад татара-мангольскай няволі.

**Генадзь САГАНОВІЧ.**

## Калі распачалося саперніцтва паміж Вільняй і Масквою?

Геапалітычнае становішча Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы вызначыла характар іх узаемадачыненняў. Да першых канфліктаў паміж Вільняй і Масквою дайшло ў гады княжання Гедзіміна. Вялікае Княства прэтэндавала на лідэрства ва Усходняй Еўропе, на ролю збіральніка ўсходнеславянскіх земляў: Альгерд, падтрымліваючы Цвер, ажыццявіў тры паходы на Маскоўшчыну, даходзіў да самай Масквы; пад пратэктаратам Вітаўта знаходзіліся Ноўгарад Вялікі, Пскоў і Разань.

Ужо пасля таго, як усе беларускія землі аб'яднаіся ў Вялікім Княстве Літоўскім, Маскоўская дзяржава, выбіўшыся пры падтрымцы залатаардынскіх ханаў у лік першых сярод княстваў Уладзіміра-Суздальскай Русі, пачала актыўна павялічваць свае землі за кошт іншых. Падбіваючы суседнія княствы, пад канец XV стагоддзя яна ўсутыч падышла да ўсходніх межаў Вялікага Княства. І калі маскоўскі князь Іван III (1462—1505) назваўся «государем всея Руси», ён адкрыта выступіў з тэрытарыяльнымі дамаганнямі да Вільні: абвясціў сваёй вотчынай Полацак, Віцебск, Смаленск ды іншыя беларускія гарады. У 1492 годзе Маскоўская дзяржава парушыла «вечны мір» з Вялікім Княствам і развязала супраць яго вайну. Палітычная праграма так званага «ўз'яднання» спатрэбілася Маскве для апраўдання анексіі беларускіх і ўкраінскіх земляў.

З гэтага часу вызначальным фактарам гістарычных падзей ва Усходняй Еўропе было смяротнае супрацьборства Масквы і Вільні. Захопніцкія войны маскоўскіх уладароў сталі амаль бесперапыннымі: яны вяліся ў 1492—1494, 1500—1503, 1507—1508, 1512—1522 гадах і г. д. Вільня мусіла тады ўсе намаганні скіроўваць на абарону сваіх межаў. Лінія супрацьборства паміж Масквой і Вільняй з'яўлялася фактычна лініяй супрацьстаяння розных палітычных сістэм, розных культурных цывілізацый, розных светаў — дэмакратычнага еўрапейскага і дэспатычнага ўсходняга.

**Генадзь САГАНОВІЧ.**

*Працяг будзе.*

*Мова і мы*

С. ДЖУДЖАЎ

# Мовы, як народы: змагаюцца, квітнеюць, паміраюць...

*Працяг. Пачатак у № 24.*

Між тым, нават самы дакладны пераклад ніколі не бывае адэкватным арыгіналу, дзякуючы нюансам выразаў і моўных зваротаў, пераклад якіх звычайна вядзе да скажэння сэнсу, пацвярджаючы італьянскую прымаўку: «Перакладчык — здраднік». Гэтых праблем не існуе для дэлегата, які мае прывілей гаварыць на сваёй нацыянальнай мове, прынятай у якасці афіцыйнай рабочай мовы.

Моўная дыскрымінацыя такая ж старая, як і гісторыя цывілізацыі. У Старажытнай Грэцыі дыскрымінацыя зводзілася не толькі да падкрэслівання эстэтычных якасцей грэчаскай мовы або інтэлектуальнай і маральнай перавагі тых, хто гаварыў на ёй. У перыяд ранняга сярэдневечча ў моўнай дыскрымінацыі ўзнікае ідэалагічны і рэлігійны элемент, які знаходзіць сабе апраўданне ў догме свяшчэннага характару трох літургічных моў: старажытнаяўрэйскай, грэчаскай і лацінскай. Лічылася, што толькі яны вартыя таго, каб на іх выконваліся культавыя абрады, ад чаго ўсе астатнія як «варварскія» былі адлучаны. Гэтыя тры мовы мелі тыя ж функцыі і прывілеі, што і рабочыя мовы сучасных міжнародных арганізацый. Грэчаская, старажытнаяўрэйская і лацінская мовы захоўвалі сваё прывілеяванае становішча аж да X стагоддзя, калі догмат гэтай моўнай тройцы быў аспрэчаны братамі Кірылам і Мяфодзіем і калі чацвёртая мова — славянская — была прынята для выканання хрысціянскіх абрадаў. і на ёй была адслужана абедня ў Ватыканскім саборы ў прысутнасці папы Адрыяна II (867—872), які ў спецыяльным пасланні дазволіў Кірылу і Мяфодзію распаўсюджваць славянскія кнігі і славянскае набажэнства. Тады ўпершыню ў афіцыйных колах хрысціянскай царквы было рашуча пастаўлена пытанне аб праве кожнага народа вучыцца і маліцца богу на ўласнай мове.

Дыскрымінацыя працягваецца і ў сучасную эпоху. Наш век характарызуецца развіццём сродкаў масавай інфармацыі і пашырэннем міжнародных сувязей. Моўная дыскрымінацыя набыла іншы выгляд, але моўны фетышызм, прынцып праярытэту (рэлігійнага, эстэтычнага, навуковага, сацыяльнага, палітычнага і інш.) адной або некалькіх моў над усімі астатнімі мовамі свету зноў выяўляецца. У цяперашні час гэтыя мовы называюць рабочымі, што з'яўляецца эўфемізмам выразу «прывілеяваныя мовы». Гэта азначае, што рабочая мова становіцца мовай сусветнай, універсальнай, а ўсе астатнія мовы — вялікія і малыя — пачынаюць паступова траціць сваё міжнароднае, палітычнае, навуковае, эканамічнае і нават нацыянальнае значэнне і ідуць да заняпаду, што іншаземцы і нават людзі, якія жывуць у арэалах гэтых моў, перастаюць свабодна выбіраць іх у якасці вывучэння, аддаючы перавагу сусветнай мове.

Так некаторыя нацыянальныя мовы непрыкметна апынуліся на шляху да павольнага памірання: яны асуджаны падзяліць у будучым лёс моў, асіміляваных іншымі мовамі, тымі, што валодаюць большай энергіяй экспансіі. Але ад моўнай дыскрымінацыі да дыскрымінацыі палітычнай і нацыянальнай усяго адзін крок.

Са знікненнем мовы знікае і этнічная культура, для якой мова з'яўляецца крыніцай і апорай, а разам з паміраннем этнічнай культуры гіне і нацыянальная самасвядомасць. Страта мовы — гэта самая вялікая катастрофа для народа. Нацыянальная мова і вусная традыцыя, што бярэ з яе свой пачатак: народная творчасць, музыка і танец, гульні і народны тэатр, міфалогія і ўсё, што складвалася вякамі,— утвараюць этнічную культуру, якая з'яўляецца жывым увасабленнем нацыянальнага генія. Таму малыя нацыі раўніва адносяцца да сваіх моў, змагаюцца за іх захаванне. Уся гісторыя нацыянальнага адраджэння балканскіх народаў напоўнена барацьбой моў, вайной за захаванне або гегемонію той або іншай нацыянальнай мовы...

Моўныя канфлікты праходзяць розныя стадыі інтэнсіўнасці. На фазе найменшай інтэнсіўнасці народы яшчэ не ведаюць аб існаванні моўнага канфлікту. Іх палітычныя, эканамічныя і культурныя ўзаемаадносіны могуць быць нават дружалюбнымі. У іх могуць быць агульныя палітычныя і эканамічныя інтарэсы, але з пункту погляду закону замкнёнай сістэмы іх моўныя інтарэсы знаходзяцца ў супярэчнасці, паколькі распаўсюджванне адной мовы нават ва ўмовах добрасуседства заўсёды адбываецца за кошт другой мовы і нясе ў сабе зародак моўнага канфлікту. Напрыклад, у межах Еўрапейскай эканамічнай садружнасці або Еўрапейскага саюза праблема рабочай мовы застаецца нявырашанай і тоіць у сабе канфліктную сітуацыю.

Моўная дыскрымінацыя — гэта больш высокая ступень развіцця канфлікту. На гэтай фазе носьбіты дамінуючай мовы асэнсоўваюць сваю перавагу і скарыстоўваюць для ўстанаўлення палітычнай, эканамічнай, адміністрацыйнай або прававой гегемоніі. Доўгатэрміновай задачай з'яўляецца падпарадкаванне народа шляхам прывіцця яму сваёй мовы, сваёй культуры, сваёй нацыянальнай свядомасці і растварэння яго такім чынам у сваёй палітычнай супольнасці.

Такая моўная палітыка праводзіцца некаторымі буйнымі дзяржавамі, але праводзіцца яна тонка, з выкарыстаннем сучасных сродкаў масавай інфармацыі, транспарту, найноўшай тэхнікі і накіравана на забеспячэнне максімальнай экспансіі (сферы ўплыву.— Рэд.) сваёй мове, сваёй нацыянальнай культуры. Уся інфармацыйная і прапагандысцкая машына імкнецца пераканаць, што мова малых нацый, мясцовыя дыялекты за межамі этнічных і нацыянальных культур, асновай якіх яны з'яўляюцца, практычнай каштоўнасці не маюць. Таму неабходна адмовіцца ад мовы і нацыянальнай культуры, а ў выніку ад уласнай нацыянальнасці, і засвоіць мову і культуру «цывілізаванай» нацыі.

Моўная вайна — гэта больш высокая ступень канфлікту. Менавіта на гэтай фазе носьбіты мовы, якая дыскрымінуецца, актыўна супраціўляюцца культурнай агрэсіі. Нацыянальная большасць, што знаходзіцца пры ўладзе, ужывае адміністрацыйныя санкцыі, каб прымусіць усіх перайсці на афіцыйную мову. Гэты пераход суправаджаецца актамі гвалтоўнага прымусу, нярэдка забойствамі. Часта, каб пазбегнуць праследаванняў і ўціску, меншасць вымушана эміграваць. Моўны канфлікт можа прыняць форму сапраўднай грамадзянскай вайны, часта бязлітаснай, як паміж сіндхамі і урду ў Пакістане ў 1972 г. Усё гэта сведчыць аб тым, што міжмоўныя спрэчкі не менш небяспечныя, чым тыя, што выклікаюцца эканамічнымі канфліктамі.

Кульмінацыйная фаза моўных канфліктаў — гэта асіміляцыя, або «лінгвацыд». Асіміляцыя адной мовы другою азначае паміранне мовы, якая асімілюецца, і нацыянальнай свядомасці народа, што на ёй гаворыць. Моўная асіміляцыя ляжыць у аснове асіміляцыі культурнай, нацыянальнай, палітычнай і г.д. Менавіта таму яна з'яўляецца адной з мэт заваёўнікаў і каланізатараў. Асіміляцыя азначае поўнае разбурэнне сацыяльнага арганізма — народа, нацыі, расы, племені — і яго інтэграцыю ў іншы сацыяльны арганізм, або, кажучы больш дакладна, паглынанне адной сацыялінгвістычнай групы другой.

Могуць запярэчыць, што мова — гэта толькі інструмент, што яна спароджана чалавекам і не можа мець уласных, незалежных ад чалавека функцый, а таму не можа вызначыць існаванне і развіццё сацыяльнага арганізма (нацыі), што можна змяніць мову, як мяняюць бялізну або любы прадмет хатняга ўжытку, і што таму адміністрацыйныя меры, якія прымаюцца ў адносінах да некаторых мясцовых моў, дыялектаў і гаворак і накіраваны на палітычную і культурную ўніфікацыю дзяржавы, не закранаюць палітычныя правы грамадзян і не пагражаюць палітычным інтарэсам нацыянальных меншасцей.

Сапраўды, мова ствараецца ў чалавечым грамадстве і не існуе па-за ім, але мова пры дапамозе адваротных сувязей уздзейнічае на грамадства, што яе нарадзіла, і выконвае ў ім канструктыўную і арганізацыйную функцыі, даючы членам грамадства магчымасць кантактаў і ўзаемадзеяння. *Працяг будзе.*




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Муза Міхаіла Лермантава (1814—1841) зрабіла яго адной з самых значных постацей у рускай літаратуры мінулага стагоддзя.

*Міхаіл ЛЕРМАНТАЎ*

* * *

Не, я не Байран, іншы я,
Абраннік, свету невядомы,
Вандроўнік, як і ён, бяздомны,
Ды руская душа мая.
Раней пачаў, раней і скончу,
Не многа здзейсніць розум мой;
Душа, як акіян паўночны,—
Надзей разбітых груз у ёй.
Хто зможа, акіяне сумны,
Твае разведаць тайны? Хто
Натоўпу скажа мае думы?
Ці я — ці Бог — альбо ніхто!

*Пераклад з рускай Васіля ЗУЁНКА.*

## Жабрак

Каля святых варот царквы
Стаяў, нядоляю прыкуты,
Бядняк змарнелы, ледзь жывы
Ад смагі, голаду, пакуты.

Ён міласці, якою жыў,
Прасіў тут у людзей і ў неба,
І нехта камень палажыў
Яму ў руку заместа хлеба.

Так з непазбыўнаю тугой
Маліў цябе я, закаханы;
Вось так сардэчны клопат мой
Табой навекі ашуканы!

* * *

1

Я адзін выходжу на дарогу;
Ноч імглой ахутала яе;
Даль прыціхла, молячыся Богу.
Зорка зорцы голас падае.

2

У нябёсах велічна і згодна!
У блакітным ззянні спіць зямля...
Што ж мне так і цяжка, і маркотна?
Што са мной? Чаго шкадую я?

3

Не шкадую дзён, пражытых мною;
Лепшых мне не бачыць і не чуць;
Я шукаю волі і спакою!
Я б хацеў забыцца і заснуць!

4

Ды не так, як спяць пад крыжам людзі...
Я б жадаў такія ўбачыць сны,
Каб жыццё мае уздымала грудзі,
Каб пацiху дыхалі яны.

5

Каб да слыху далятаў з пяшчотай
Спеў кахання і, пад гэты спеў,
Нада мной зялёнаю лістотай
Цёмны дуб схіляўся і шумеў.

*Пераклад з рускай Аркадзя КУЛЯШОВА.*

*Уражанні*

*— Па-мойму, ён спіць непрабудным сном.*
*— Зараз уся моладзь такая,— мармытнуў Досэрдан, па-ранейшаму мёртвы.*

**Джон Бойтан Прыстлі.**

# «Мне сняцца сны аб Беларусі»

Тэатр Беларускага паэтычнага слова... На маленькай чорнай сцэне за цымбаламі сядзеў музыка, стаяла артыстка. У зале, сярод зялёных крэслаў, акрамя мяне, бы на выспе ў моры, яшчэ трое гледачоў. Тое, што адбывалася, нагадвала спірытычны сеанс. Гучалі Купалавы словы, ажывала яго душа. Вуснамі артысткі, голасам цымбалаў Купала зноў стагнаў і галасіў па Беларусі.

...Запыленая скрыпка пад лаваю ў пустой хаце. Некалі яна была зялёным дрэвам, піла сокі зямлі і сонца. Яе ўзлашчылі моцныя рукі прашчура, і яна заспявала, заносячы душы ў нябёсы... Зараз нашчадак яе творцы паблажліва і недаўменна аддае выпадковаму падарожніку сваю спадчыну. А навокал — цішыня, сонны люд, які адвеку ўзводзіць курганы — сімвалы сну і забыцця... Самотай і болем прасякнуты кожны радок, прысвечаны Бацькаўшчыне. І нават калі словы ўзнёслыя, трывогі ў іх больш, чым веры.

Пясняр, хто назваў цябе так? Пясняр радасны, светлы, урачысты, прасякнуты ўпэўненасцю ў тым, што народ, радзіма — ловяць ягонае слова і гатовы пад кожным яго радком падпісацца ўласнай крывёй!.. Не прайшло і чалавечага веку з дня смерці, і — тры слухачы ў зале. У горадзе ходзяць астатнія паўтара мільёна, і кожны думае, што жыве сапраўдным жыццём, будуе яго — а не новыя курганы.

...У лісце да Чарвякова перад спробаю самагубства ён шкадаваў, што не зможа ўзяць удзелу ў будаўніцтве, распачатым бальшавікамі ў Савецкай Беларусі. Яму не далі тады забіць сябе. Але для згвалтаванай Беларусі ён нічога зрабіць ужо не змог — тым, хто гаспадарыў у ёй, і іх рабам яго любоў да Бацькаўшчыны была не даспадобы...

Не, ён — не пясняр. Ён быў сынам Беларусі, і таму, не здолеўшы ўратаваць яе, мог адно — пакутаваць. А верыць?

Верыць можна ў шчасце. Набліжэнне ж трагедыі прадчуваюць, бы прысніўшы жахлівы сон. Апагей роспачы, прадчуванне смерці ў вершы-сне пра крывавы след на белым снезе — кроў брата, пралітая братам. Чырвонае на белым — бы чырвоная стужка на белым сцягу Беларусі, бы адвечны сімвал усёй беларускай гісторыі.

Любячае, сыноўняе сэрца — заўжды прарочае. У снежны студзеньскі дзень 1919 года «старэйшы брат» узяў пад сваю «апеку» Беларусь. Новыя ўладары выкінулі з гісторыі бел-чырвона-белую рэліквію беларусаў. Пасля выкінулі Купалу і астатніх...

Беларусы ж, бы Пётра ад Хрыста, выракаліся айчыны, кожны раз — з усё большай лёгкасцю, і спахапляліся толькі тады, калі проста над галовамі ўзлятала сякера ката.

Няўжо — канец, няўжо над усёй Бацькаўшчынай — курган?

Бо чаму тры гледачы ў зале? Дзе астатнія — спяць?

«...Мне сняцца сны аб Беларусі...»

**Юлія КАЧАНАВА,**
**выпускніца СШ № 108**
**г. Менска.**

*Вечарыны*

# З песняй мы не будзем сумаваць

**Гэта радкі з «Песні Адраджэння» З. Яўтуховіча і паэта В. Шніпа, якая стала апафеозам вечарыны «Песняй поўніцца душа», што наладзіў Дом літаратара 20 траўня. Адбылася першая вечарына беларускай эстраднай песні на словы знакамітых нашых паэтаў Алеся Бадака, Леаніда Дранько-Майсюка і Віктара Шніпа. Гучалі творы кампазітараў З. Яўтуховіча, А. Елісеенкава, В. Сажына, І. Лучанка, П. Яроменкі, М. Сацуры.**

**Вечарына ўдалася. Гэта было сапраўднае свята паэзіі і песні. Яно пацвердзіла, што ў нас ёсць надзейныя сілы. Уся наша бяда ў тым, што мы не ведам добра свайго багацця і часам аддаём перавагу чужому, лічым яго чамусьці лепшым і прыгажэйшым. Думаю, парадуюцца нашы выпускнікі, што ў іх ёсць свая песня развіцання са школай. Калі на сцэну выйшла салістка студыі «Сябры» — сёлетняя выпускніца Алеся і заспявала «Школьны баль» М. Сацуры на словы А. Бадака, твары прысутных засвяціліся па-асабліваму.**

**Парадавалі і барды В. Шалкевіч, А. Атаманаў, і салісты В. Касенка, А. Саўленайтэ, А. Хлястоў, І. Качагараў. Ю. Скараход. Некалькі песень выканала юная Т. Воранава, у тым ліку «Так і знай», «Хлопчык з гітарай» на словы А. Бадака і «Гляньце хлопцы на мяне» — В. Шніпа.**

**Сваё выступленне студыя «Сябры» на чале з Анатолем Ярмоленкам пачала песняй «Усе мы родам з дзяцінства» (муз. З. Яўтуховіча, словы В. Шніпа). Спадабалася выкананая А. Ярмоленкам песня «Анатоль» (муз. М. Сацуры, словы Л. Дранько-Майсюка) пра лёс нашых знакамітых некалі спевакоў, што засталіся ў далёкім замежжы, асабліва словы: «Калі сёння паеду са сваёй Беларусі, то ўжо заўтра да свету на сняданак вярнуся».**

**Упрыгожаннем вечарыны стаў дзіцячы ансамбль «Буслік» (мастацкі кіраўнік З. Яўтуховіч).**

**Мы сапраўды не сумавалі ў гэты вечар. І галоўнае — змаглі адчуць па-іншаму прыгажосць беларускай эстраднай песні, атрымалі пэўнае абагульненне паасобных звестак.**

**Будзем спадзявацца, што такія святы стануць традыцыйнымі (дарэчы, пра гэта сказала вядучая канцэрта Ірына Ястраб).**

**Добра было б, каб на такіх вечарынах прадавалася і літаратура. Як хацелася ў гэты вечар мець творы А. Бадака, Л. Дранько-Майсюка, В. Шніпа.**

**Г. ХАТКЕВІЧ.**

# «Тэатральная Беларусь», № 3

*Чыталі?*

**Чарговы нумар «Тэатральнай Беларусі» адкрываецца артыкулам «Думкі пра народны тэатр» і допісам у рэдакцыю «Шлях моладзі» пад назвай «Наша культурная праца» Янкі Брыля, якія былі напісаны пісьменнікам у трыццатыя гады. Тут жа друкуюцца дзве камедыі Льва Талстога «Ад яе ўсе якасці» і «Першы вінакур», перакладзеныя Я. Брылём амаль 60 гадоў назад. Сучасную трагікамедыю ў дзвюх дзеях «Госці» чытачам часопіса прапанаваў Іван Чыгрынаў. Пра праблемы, з якімі сёння сутыкаецца творчая інтэлігенцыя, піша Яўген Міклашэўскі ў артыкуле «Інтэлігенцыя за... кулісамі». Часопіс завяршае распачатую ў папярэднім нумары публікацыю матэрыялаў пра гомельскі фестываль «Драматычнае мастацтва Беларусі-92». На гэты раз слова даецца Анатолю Сабалеўскаму, Сцяпану Лаўшуку, Рычарду Смольскаму, Гурыю Барышаву, Віктару Навуменку, Галіне Алісейчык, Маі Гарэцкай. Іх выступленні, што прагучалі на навукова-практычнай канферэнцыі, друкуюцца пад агульным загалоўкам «Вясна напрыканцы восені».**

**Нататкі пра ўрачыстае адкрыццё ў Маладзечне Менскага абласнога драматычнага тэатра прапануе Мікола Шабовіч. Пра альтэрнатыўны тэатр, якім кіруе Вітаўтас Грыгалюнас і які з'яўляецца найбольш стабільным сярод «маладых», распавядае Аксана Міхеева ў артыкуле «Тэатр альтэрнатыўны». У мінулым годзе ў Беларусі за апошнія 70 гадоў афіцыйна адзначаліся Каляды. Пра тое, як іх святкавалі ў Менску, можна даведацца з артыкула Яўгена Адамовіча «А месяц глядзеў, а месяц дзівіўся...»**

**«Без гледача — тэатр жыць не будзе, гэта відавочна. Хаця, тут трэба глядзець праўдзе ў вочы, сапраўдных тэатральных гледачоў у Гомелі паменшала. Прычын шмат. Чытач, думаю, і сам гэта разумее. Але ў Гомельскага драматычнага тэатра ніякага іншага выйсця няма, акрамя аднаго,— упартай, штодзённай працай збіраць і выхоўваць менавіта свайго гледача, гледача цікаўнага, патрабавальнага, удзячнага» — так канчаюцца нататкі пра Гомельскі абласны драматычны тэатр «Час збіраць... гледачоў» Рычарда Смольскага.**

**«Тэатральная Беларусь» прапануе чытачам шмат іншай кароткай інфармацыі з тэатральнага жыцця краіны.**

**В. А.**

# Мова прыроды

**Здавалася б, ёсць неадпаведнасць у словазлучэнні «мова прыроды». Пра якую мову можа ісці гутарка? Гаварыць жа можа толькі чалавек. Але гэта не так. Параўнаем мову двух перыядаў года — вясны і восені. Гэта значыць, часы росквіту і адцвітання.**

**Вясна — раніца года. З гэтай парой мы звязваем абуджэнне прыроды, прылёт новых сіл. Першымі гэтыя з'явы заўважаюць птушкі. Іх галасы шмат аб чым гавораць. Іх нельга перакласці на чалавечую мову. Але гэта мова, мова самой прыроды, зразумелая чалавеку. Вясной усё першае: капяжы, ручаі, трава, кветкі... Вясна прыходзіць да нас са сваёй мовай.**

**Супрацьлеглая вясне пара — восень. Яна гаворыць з намі на іншай мове. Вазьміце трывожны крык жураўлёў у небе... Гэтыя мелодыі выклікаюць зусім іншыя пачуцці, чым вясеннія птушыныя спевы. А фарбы лесу, поля, неба... Мы не ў роспачы. Але вось чагосьці шкада, хоць і ведаеш, што вясна вернецца, зноў прынясе нам радасць.**

**Прырода шматмоўная. Яна, як мы бачым, даверліва гаворыць з чалавекам. Шчаслівы той, хто разумее прыроду, хто ніколі не крыўдзіць яе.**

**Міхась ШАВАНДА,**
**галоўны ляснічы**
**Касцюковіцкага лясгаса.**

